# наша свабода

№48(135) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

14 ТРАЎНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Для справы Завадскага знайшлі злачынцу



Фота Ул.ШЛАПАКА

На мінулым тыдні пракуратура краіны адрапартавала пра частковае заканчэнне адной з «гучных справаў» – справы аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага. Быццам бы знайшлі тых, хто 7 ліпеня мінулага года скраў тэлежурналіста і здзейсніў яшчэ шэраг цяжкіх злачынстваў, у тым ліку забойстваў 7 чалавек. Пракуроры Іван Бранчэль, які кіраваў расследаваннем, і намеснік генеральнага пракурора Міхаіл Снегір звязалі зьнікненне Завадскага з дзейнасцю злачыннай групоўкі, арганізаванай былым супрацоўнікам спецпадраздзялення «Альфа» Валерыем Ігнатовічам. (Прозвішчы астатніх бандытаў, акрамя Ігнатовіча, чамусьці не прагучалі – пракуроры патлумачылі гэта тайнай следства і прэзумпцыяй невінаватасці.) Паводле пракурораў, Ігнатовіч адпомсціў Завадскаму за тое, што той назваў яго ў адным з газетных інтэрв'ю. Журналістам гэтая версія падалася вельмі хісткай, і яны закідалі спадароў пракурораў пытаннямі, не ўсе з якіх атрымалі ясны адказ. Каб не выглядала, што ў гэтай заўвазе мы перабольшваем, прапануем запіс размовы пракурораў з журналістамі. Невялікія каментары, спадзяюся, дапамогуць чытачу лепш арыентавацца ў дэталях размовы.

**Кар. ОРТ:** ***Па вашых словах, доказаў віны банды Ігнатовіча ў выкраданні Зьмітра Завадскага хапае. Скажыце пра матыў і механізм гэтага злачынства?***

**Іван Бранчэль:** Гэта была помста. Пасля аднаго з нападаў (маецца на ўвазе бандыцкія напады групоўкі на жыхароў Беларусі) Ігнатовіч з'ехаў у Чачню. Ён так часта рабіў, каб перачакаць, пакуль ідуць інтэнсіўныя пошукі. Там ён быў затрыманы міліцыяй Расіі каля горада Шалі. Гэты эпізод быў паказаны тэлеканалам НТВ, і ў каментары прагучала, што Ігнатовіч ваяваў на баку чачэнскіх баевікоў. Гэта пацвердзіў і Зміцер Завадскі ў сваім інтэрв'ю «Белорусской деловой газете». Калі Ігнатовіч вярнуўся з Чачні, а ён тады быў актыўным сябрам РНЕ, прэтэндаваў на лідэрства, то і паўстала пытанне пра ягонае сяброўства ў РНЕ. І Самойлаў выдаў загад пра ягонае выключэнне. Вось гэты матыў і прывёў да таго, што ён задумаў яшчэ ў сакавіку здзейсніць выкраданне. Ён некалькі разоў прыязджаў з Чачні, але не атрымоўвалася. А вось 7 ліпеня (*2000 года. У гэты дзень аўтамабіль Завадскага быў знойдзены ў аэрапорце Мінск-2, а сам ён зьнік. – **Аўт.***) было вельмі зручна – ён быццам у Маскве, а сам прыязджае ў Мінск, выкрадае Завадскага, а потым з'язджае зноў у Чачню, стварваючы сабе алібі. Таму ніякага іншага матыву няма пры выкраданні Завадскага – толькі помста. Гэта нашае глыбокае перакананне. У нас былі сумненні ў гэтым, мы правяралі шмат версіяў, але іншай версіі не засталося.

***– Другая частка пытання – як было здзейснена злачынства?***

– На шляху ў аэрапорт. Падрабязнасцяў я не буду паведамляць, зразумейце, ёсць прэзумпцыя невінаватасці, і да суда я не магу гэта паведамляць.

***– На шляху ў аэрапорт – гэта ў Мінску ці за горадам?***

– За горадам.

**Кар. Радыё «Свабода»:** ***Калі пагадзіцца з версіяй помсты, то здзіўляе, чаму Ігнатовіч вырашыў помсціць не НТВ, якое паказала ягоны твар, а аператару ОРТ Завадскаму, хаця ён у інтэрв'ю «БДГ» нават не называў прозвішча Ігнатовіча, а толькі згадаў, што бачыў у Чачні беларуса, які ваюе на баку чачэнцаў. Як следства тлумачыць гэтую супярэчлівасць?***

– НТВ – гэта вялікая арганізацыя, а Ігнатовіч не мог помсціць усёй арганізацыі, ён помсціў канкрэтнай асобе тут, у Беларусі. НТВ прымае толькі Мінск, а па ўсёй краіне, дзе вельмі распаўсюджаны ўплыў РНЕ (??! **— Аўт.**), няма НТВ. А Зміцер Завадскі даў інтэрв'ю «БДГ», якая шырока распаўсюджваецца па краіне, і праз гэта яны даведаліся пра Ігнатовіча.

Заканчэнне на стар.5

## Дэкрэт №11 – новая пагроза свабодным выбарам

Амерыканскі пасол пры Пастаянным Савеце АБСЕ Дэвід Т.Джонсан зрабіў заяву наконт нядаўна прынятага А.Лукашэнкам дэкрэта №11. Паводле ягоных словаў, ЗША заклапочаныя з нагоды «навязвання новых абмежаванняў на свабоду сходаў з-за дэкрэта №11, які прадстаўляе сабой чарговае адступленне ад неабходных умоваў для правядзення свабодных і справядлівых выбараў, якія прызнала б сусветная супольнасць».

КРЫМІНАЛ

## На «Мінск» напалі фашысты

У суботу ўначы ў сталіцы нямецкай зямлі Брандэнбург Патсдаме адбыўся напад неанацыстаў на летнюю кавярню «Мінск». Пра гэта паведаміла агенцтва РИА «Новости».

Невядомыя прыхільнікі ідэяў вялікага фюрэра разрысавалі свастыкамі і нацысцкімі лозунгамі «*Heil, Hitler!*» будынак кавярні, выкарыстоўваючы пры гэтым неадмыўную фарбу. Але гэтага злачынцам падалося мала, і яны таксама прадрапалі свае лозунгі на шыбах «Мінска». Справу расследуе крымінальная паліцыя зямлі Брандэнбург.

Нагадаем, дарэчы, што ў Мінску яшчэ некалькі гадоў таму існаваў даволі шыкоўны для Беларусі рэстаран «Патсдам», які пасля змены гаспадара стаў называцца «Крыніца».

## Маскоўскі прарыў «белпяцёркі»

10-12 траўня патэнцыйныя прэтэндэнты на прэзідэнцтва ад аб'яднанай апазіцыі працавалі ў Маскве. Праўда, з «пяцёркі» не паехаў старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык – у Мінску, як сцвярджаюць дасведчаныя крыніцы, у яго была запланаваная надзвычайнай важнасці сустрэча (па іншай версіі, У.Ганчарык застрахаваўся ад магчымых абвінавачанняў з боку ўладаў, што ён стаўленік Масквы – ва ўмовах голаду і занадта дазіраванай інфармацыі гэтая акалічнасць магла істотна нашкодзіць патэнцыйнаму кандыдату ў прэзідэнты). 10 траўня ў расійскую сталіцу не паехаў і першы сакратар ЦК Партыі камуністаў Сяргей Калякін: у патэнцыйных кандыдатаў адбыліся сустрэчы з дэпутатамі ДзяржДумы правага ўхілу. Як падкрэсліў прэс-сакратар лідэра камуністаў, С.Калякін «наўмысна не паехаў 10 траўня».

У сітуацыі, калі Расія чэрпае інфармацыю пра Беларусь праз МЗС, пасольства ды манапалізаваныя А.Лукашэнкам СМІ, гэты трохдзённы візіт можна назваць «інфармацыйным прарывам». 10 траўня «тройка» Павел Казлоўскі, Міхаіл Чыгір ды Сямён Домаш мелі сустрэчы з кіраўніком фракцыі Саюз правых сілаў ДзяржДумы Барысам Нямцовым, намеснікам фракцыі «Яблоко» спадаром Іваненкам, наведалі Інстытут праблемаў пераходнай эканомікі Ягора Гайдара. «Тройка» правяла і шэраг неафіцыйных сустрэчаў з чыноўнікамі адміністрацыі Пуціна.

Заканчэнне на стар.3

# Вяртаньне да камуністычнага мінулага

*3 траўня чэскі штотыднёвік «Рэфлекс» надрукаваў артыкул журналіста Міхала ПЛАВЕЦА, безпадстаўна дэпартаванага беларускімі ўладамі. Прапануем яго ўвазе нашага чытача*

Прайшоў час, перш чым я зразумеў, што яны ўрэшце прыйшлі. Зьнікла напружанасць, у якой я знаходзіўся апошнія некалькі месяцаў. Я яшчэ не ведаў, што будзе далей, аднак, што яны калісьці прыйдуць, я ведаў дакладна. Выбачайце, забыў іх прадставіць. «Яны» – супрацоўнікі беларускага Камітэту дзяржаўнай бяспекі, КДБ.

На мяжы XXI ст. адна з сакрэтных службаў на Беларусі захавала сваю назву яшчэ з часоў Савецкага Саюзу. У астатніх краінах былой камуністычнай імперыі іх хаця б перайменавалі, нягледзячы на тое, што практыка й метады засталіся тыя самыя.

Прыйшлі, і былі сярод іх таксама супрацоўнікі ОВІР, аддзялення віз і рэгістрацый беларускага міністэрства ўнутраных спраў, адпаведнік нашай іншаземскай паліцыі. Яшчэ ў кватэры хацелі, каб я падпісаў два дакументы. Я не падпісаў. Сказалі, што я знаходжуся ў кватэры, у якой я незарэгістраваны, чым парушаю рэжым знаходжаньня і існуючыя законы. Я жадаў сустрэцца з юрыстам і прадстаўніком чэскай амбасады. Не дазволілі. Калі ж я адмовіўся падпісаць, далі мне пяць хвілін, каб я сабраў рэчы, і адвезлі ў цэнтр КДБ у Менску. Зачынілі мяне ў следчым пакоі і зноў прымушалі падпісаць тыя дакументы. Нарэшце, мне дазволілі патэлефанаваць на амбасаду, і чэскі амбасадар у Менску Алесь Фойцік прыехаў вельмі хутка. Параіў мне, каб я па-чэску напісаў, што не жадаю падпісаць, бо мне не дазволілі параіцца з юрыстам, і што не згодны з фармулёўкай абвінавачвання. Праз паўтары гадзіны я ўжо праходзіў мытны і пашпартны кантролі ў варшаўскім аэрапорце. Толькі там я зноў адчуў ўсведамленне часу.

### Усе магчыма, на Беларусі двойчы

На Беларусь я ўпершыню завітаў у якасці журналіста ў 1999 годзе. Ад сакавіка 2000 з невялікімі перапынкамі я знаходзіўся практычна аж да свайго выгнаньня сёлета ў красавіку. Хаця я пастаянна пісаў, галоўным зместам маёй працы пазьней стала каардынацыя працы Беларускага цэнтра «Чалавек у нядолі». Мы не былі зарэгістраваныя, таму што не мела ніякага сэнсу прасіць дазволу. Усё адно нам бы яго не далі. Мы дапамагалі апазіцыйным арганізацыям, адпраўлялі беларусаў у Чэхію, а чэхаў да Беларусі, арганізоўвалі стажыроўкі для журналістаў, эканамістаў, юрыстаў, суддзяў.

Заканчэнне на стар.5

## Беларускі ўрад бянтэжыць Польшчу

Міністэрства замежных справаў Польшчы заявіла, што нічога не ведае пра планы будаўніцтва чыгункі ад Гродна да Калінінграда праз польскую тэрыторыю. Пра такія намеры зрабіць самы кароткі шлях ад Калінінграда да астатніх земляў Расіі днямі казаў віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Леанід Козік.

## Літва супакойвае Лукашэнку

Міністэрства абароны і міністэрства замежных справаў Літвы даявло, што тэрміны правядзення на тэрыторыі краіны вучэнняў *NATO* не прывязаны да часу прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Справа ў тым, што ў сувязі з гэтымі вучэннямі А.Лукашэнка нядаўна заявіў, што беларускія ўзброеныя сілы ў гэты ж самы час будуць таксама праводзіць вучэнні ў Віцебскай вобласці.

## Бабруйскі «Партызан»

У Бабруйску з'явілася новае друкаванае выданне – гэта газета пад назвай «Партызан». Першы ейны нумар накладам у 3 тысячы асобнікаў выйшаў у горадзе 9 траўня. Хто выдае газету, якая будзе выходзіць раз штотыднёва і асвятляць дзейнасць мясцовай апазіцыі, невядома.

## Вывозяць абразы

Беларускія памежнікі прадухілілі чарговую спробу незаконнага вывазу за мяжу партыі абразоў.

10 траўня пры даглядзе ў пункце пропуску «Гродна-1» пасажырскага цягніка «Санкт-Пецярбург - Варшава» ў адным з вагонаў пагранічным нарадам былі знойдзены 19 абразоў і адзін драўляны крыж. Яны ацэньваюцца сумай каля 2 мільёнаў 700 тысячаў рублёў.

## Новая хваля беспрацоўя

За першы квартал гэтага года Камітэтам па занятасці насельніцтва пры міністэрстве працы ў Беларусі зарэгістравана 184,7 тысячы грамадзянаў, якія маюць патрэбу ў працаўладкаванні. Гэта вышэй за аналагічны леташні перыяд. Каля 60% беспрацоўных складаюць жанчыны ва ўзросце да 29 гадоў.

## Беларускі балет з'язджае ў Лодзь

18 і 19 траўня трупа Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі будзе браць удзел у чарговым Міжнародным фестывалі «Лодзінскія балетныя сустрэчы», які праходзіць ужо цягам 35 гадоў кожныя два гады. Беларусы прадставяць спектаклі «Лебядзінае возера» і «Спартака».

НАДВОР'Е




## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1365

# Мы зрабілі!
## *(чытаначка для свядоменькіх беларусікаў)*




**Прадмова**

Не кажыце, бываюць шчаслівыя дні і ў беларусаў. Тэлевізар уключыш, а там – ні табе тампаксаў са снікерсамі, ні акруговых намеснікаў. Самае галоўнае – ніякіх амерыканскіх герояў, што крычаць дурным голасам: «Мы зрабілі гэта!». Шкада, што рэдка начальства ў клуб ходзіць.

Бо нічога яны насамрэч не зрабілі тыя рускія з амерыканцамі. Не ў тым сэнсе, што эканоміка ў іх дрэнная, ці то людзі кепскія. Барані Божа ад гэткіх думак. Усе людзі на свеце аднолькавыя... Аднолькавыя ва ўсім... Ва ўсім, за выняткам дасягненняў, так бы мовіць, духоўных. У сэнсе ўспрыняцця выробленага, заробленага і нарабленага.

Каб хто іншы тое што мы нарабіў, то ўжо, мабыць, скамянеў бы ад сораму. А нам – анічога.

**Зарплата** ў нас вырасла ў сярэднім з 98,2 тысячы рублёў у 1994 да 86 тысяч рублёў у 2001, а у калгаснікаў з 59,1 тысяч рублёў ў 1995 да 39,2 тысяч рублёў ў 2001. То бок у сярэднім зменшылася па наміналe на 12%, а ў калгаснікаў – на 34%. Гэта таму, што сельская гаспадарка ў нас прыярытэтная галіна.

***Асноўныя словы дзеля запамінання:*** **«дажынкі», «хвала рукам», «Гарадзец», «селектарная нарада», «серп і молат», «галавацяпства».**

**Будаўніцтва**, тое, што нам трэба. Стратных будаўнічых прадпрыемстваў было ў 1994 г. 3,0% ад агульнай колькасці, са стратамі 2,1 млрд.рублёў. Сёлета мы маем, напрыклад, стратных прамысловых прадпрыемстваў 36,1% з сумай стратаў 16 млрд.рублёў, а будаўнічых прадпрыемстваў – 33,4% ад агульнай колькасці са стратамі 3,0 млрд. рублёў. Гэта таму стала стратных прадпрыемстваў у дзесяць разоў болей, а страты будаўнічай галіны растуць нават па наміналe, што будаўніцтва ў нас прыярытэтная галіна.

***Асноўныя словы дзеля запамінання:*** **«дам дзеньгі», «Лядовы палац», «загадная рэзідэнцыя», «чарга», «паадрывало галовы», «квадратны метар», «галавацяпства».**

**Экспарт** заўсёды быў вызначальным дзеля нашай эканомікі чыннікам. Беларускае начальства ад савецкіх яшчэ часоў любіць экспартна-імпартныя аперацыі, міжнародную гаспадарчую дзейнасць і ўсё астатняе, што звязанае з перабываннем па-за межамі Бацькаўшчыны. На гэты адказны ўчастак дырэктыўныя органы кідаюць лепшых сыноў і дачок, нават уласных дзетак. Вялікая колькасць начальніцкіх дзетак гандлюе на карысць сваіх сем'яў і кланаў. Агульны вынік дзеля нацыі атрымліваецца крыху горшы. У 1995 г. экспарт склаў 4,8 млрд. долараў ЗША, а імпарт – 5,6 млрд. долараў ЗША, гэта значыць склалася адмоўнае сальда гандлёвага балансу – мінус 0,8 млрд. долараў ЗША. У 2000 г. мы экспартавалі на 7,4 млрд., а імпартавалі на 8,5 млрд., і адмоўны баланс дасягнуў мінус 1,1 млрд. долараў ЗША. Гэта таму імпарт расце хутчэй за экспарт, што экспарт у нас прыярытэтная галіна.

***Асноўныя словы дзеля запамінання:*** **«дзікій крэн на Васток», «Торгэкспа», «дайце дзенег», «Саюз», «галавацяпства», «долар».**

Каментар складальнікаў: **«долар»** – грашовая адзінка галоўнай галавы Натаўскага Цмока. Актыўна накопліваецца ўсімі свядоменькімі беларусікамі, мігрантамі-акупантамі і несвядомымі манкуртамі. Напрыклад, толькі афіцыйная пакупка «долараў» у 2001 г. складае пятую частку ўлічаных выдаткаў насельніцтва.

У 1994 г. за адзін «долар» давалі 6.990 беларускіх рублёў.

***Самастойныя практыкаванні:***

**1. Знайдзіце ў газеце НАША СВАБОДА курс долара на сёння.**

**2. Параўнайце пададзеныя ў чытанцы рублёвыя паказчыкі ў доларах.**

**3. Вытрыце слёзкі і ідзіце ў абменны пункт.**

**Заключэнне**

Мы зрабілі Гэта!!!!!!!

*Падрыхтавана на грошы Фонду маральнай падтрымкі абарыгенаў*

# ГЭС на Нёмане: за і супраць

Упершыню аб Гродзенскай ГЭС загаварылі яшчэ пры Хрушчове. Нават аб цэлым каскадзе гідраэлектрастанцыяў. Аднак тады абмежаваліся пабудовай Каўнаскай ГЭС. Сёння аб пабудове электрычнай станцыі на Нёмане побач з Гродна загаварылі зноў. І пачалі рабіць канкрэтныя захады.

Фармальна абгрунтаванне ўсіх аспектаў будаўніцтва яшчэ не гатова. Экалагічныя ўмовы для праектавання яшчэ нават не запрошваліся. Не ўзгадняліся з адпаведнымі службамі і ацэнка ўздзеяння на акаляючае асяроддзе будучай станцыі. Аднак вядома, што рыхтуецца ўрадавая пастанова наконт будаўніцтва гродзенскай і полацкай ГЭС і што яна хутка з'явіцца. А як будзе пастанова, дык, як вядома, усё і закруціцца.

Пакуль што ў «Гроднаэнерга» гавораць, што ідэя будаўніцтва ГЭС аддадзеная на разгляд грамадскасці. Аднак гэта збольшага толькі словы. Каб не энтузіязм журналісткі Н.Палуцкай, ніхто б нічога рэальна не абмяркоўваў. Яна ж вырашыла правесці публічныя слуханні наконт Гродзенскай ГЭС. І тут жа гарадскія ўлады пачалі ствараць перашкоды. Было знойдзена памяшканне, заплачана за арэнду, але праводзіць грамадскае абмеркаванне праекта давялося ў зусім іншым месцы.

Нават пры былой савецкай уладзе з публічнасцю было лепей. На зломе 90-ых гадоў мясцовыя экалагічныя праблемы актыўна абмяркоўваліся на мітынгах, на старонках абласной афіцыйнай газеты. У выніку, напрыклад, быў перапрафіляваны завод медпрэпаратаў у Скідзелі Гродзенскага раёна, будаўніцтва якога тады яшчэ толькі пачалося. Цяпер думка грамадскасці зноў – як пры Брэжневе ці Сталіне – нічога не вартая.

Пакуль што жыхарам толькі прапагандуюцца вонкавыя моманты будучага будаўніцтва. Маўляў, дзякуючы плаціне Нёман стане суднаходным, болей стане рыбы, можна будзе займацца водным спортам. Карацей, звяртаецца ўвага толькі на рэкламныя бакі справы. Але, нават калі не гаварыць аб экалогіі, варта задумацца над рэальнай карысцю ГЭС. Праектавацца яна будзе два гады. Будаўніцтва можа заняць нават чатыры-пяць гадоў. Каштаваць будзе прыблізна 65 мільёнаў долараў. Аднак магутнасць станцыі дастаткова невялікая, максімум – 18 мегават. У самы лепшы час – у веснавую паводку яна зможа забяспечыць толькі каля паловы патрэбаў у электраэнергіі аднаго аб'яднання «Азот». А пры звычайным рэжыме – прыблізна трэць яго патрэбаў.

Дык які ў ёй сэнс?

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

**ТЭНДЭНЦЫІ**

# Прогнозы, долги, расчеты

### Капиталовложения в странах СНГ

Инвестиции в основной капитал в среднем по СНГ выросли в первом квартале 2001 г. на 8% по сравнению с тем же периодом 2000 г., тогда как в первом квартале 2000 г. их рост по сравнению с тем же периодом 1999 г. достигал 13%. Эту информацию распространил Межгосударственный статистический комитет СНГ. Рост инвестиций по сравнению с первым кварталом прошлого года зафиксирован во всех крупнейших странах Содружества, причем наибольшим он был в Грузии – 61%, Казахстане – 26%, на Украине – 24% и в России – 7%. В Армении рост объема инвестиций составил по итогам квартала 4%, в Азербайджане – 0,8%.

### МАГАТЭ выделяет 450 тысяч долларов

Радиотерапевтическое оборудование для лечения опухолевых заболеваний в белорусских онкологических центрах в Минске, Бресте и Гомеле в 2001 году будет модернизировано. В рамках имеющейся программы технического сотрудничества с Беларусью Международное агентство по атомной энергии (МАГАТЭ) намерено дополнительно в текущем году осуществить работы в этом направлении на общую сумму около 450 тысяч долларов.

### Чехия ввела для Беларуси визовый режим

Чехия расторгла межправительственные соглашения о безвизовых поездках граждан с Россией и Беларусью, а также протокол о безвизовом обмене с Украиной. Соответствующие дипломатические ноты МИД Чехии передал представителям посольств России, Беларуси и Украины 28 апреля. Соглашения о безвизовом обмене с Россией и Беларусью утратят силу 29 мая, визовый режим с Украиной будет введен 28 июня.

### Рост промышленности в странах СНГ замедлился

Рост промышленного производства в странах СНГ в первом квартале 2001 г. замедлился по сравнению с тем же периодом 2000 г. Если в январе-марте 2000 г. рост производства в среднем по СНГ составлял 10,5% по сравнению с уровнем того же периода 1999 г., то в январе-марте 2001 г. рост замедлился до 6,5%. Эти данные распространил Межгосударственный статистический комитет СНГ.

**Андрей КАРПОВИЧ**

# Не вер суддзі – пераможаш крыўду

У Гродне ўзімку быў раптам, у адначассе, закрыты цэх па апрацоўцы крэветак. На вуліцы апынуліся каля сямісот работніцаў, калі ўлічваць тых, хто працаваў няпоўны час. Ім выдалі толькі заробкі, не заплаціўшы ніякіх кампенсацыяў у сувязі з раптоўным звальненнем. Гарадскія ўлады, якія гэтак любяць на словах дбаць пра беспрацоўных, рэальна нічым не дапамаглі пакрыўджаным жанчынам. Яны мусілі моўчкі разысціся па дамах. Паспрабаваць змагацца за свае правы вырашылі толькі 17 жанчын з Свабоднага прафсаюза.

Яны падалі ў суд на адміністрацыю сумеснага прадпрыемства «Альформа», дзе яны раней працавалі. Першым патрабаваннем было – каб было прызнана, што іх звольнілі з прычыны скарачэння штатаў. А калі так, дык хай адміністрацыя выплаціць пацярпелым сярэднія заробкі за час вымушанага прагулу плюс па 100 тысяч рублёў маральнай кампенсацыі. Дырэктар «Альформы» А.Лех прапанаваў свае ўмовы – па 60 тысяч рублёў заробку і па 10 тысяч кампенсацыі. Інакш кажучы, гэта як мінімум на 100 тысяч менш, чымсьці спадзяваліся атрымаць былыя крэветачніцы.

Вось як суддзя Я.Казяк пераконваў жанчын, што значна лепей пагадзіцца на ўмовы міравога пагаднення, чымсьці працягваць змагацца за свае патрабаванні. Што ж, у гэтым ёсць абавязак суддзі. Аднак яго настойлівасць выглядала крыху празмернай. Вось што ён гаварыў. Сумы, запатрабаваныя беспрацоўнымі жанчынамі, маўляў, – вельмі вялікія, нерэальныя. Каб нават суд прыняў рашэнне аб спагнанні такіх грошай, дык ад адказчыка абавязкова паступіць скарга. Яе будзе разглядаць на працягу двух месяцаў абласны суд. А потым, нават калі рашэнне будзе пакінутае правамоцным, да рэальнай выплаты грошай можа прайсці яшчэ багата часу. А так – грошы амаль адразу.

Пасля такой псіхалагічнай падрыхтоўкі Я.Казяк пачаў пасобку апытваць кожную з прысутных жанчын: ці згодны яны на 70 тысяч? Адна з іх прызналася, што стаіць на ўліку беспрацоўных і атрымлівае ад дзяржавы 7.300 рублёў у месяц. Каб вы дамагліся выплаты поўнай сумы, у вас гэтыя 7.300 вылічылі б, сказаў суддзя. А вось 70 тысяч атрымаеце чыстымі. Падумайце: цэха ўжо няма, куды вас аднаўляць на працу? Каб нават я так вырашыў, усё адно пачаліся б абскарджанні, «нервотрепка». Грошы, якія прапануе дырэктар, можна «памацаць». А вось іншае рашэнне, калі яно будзе прынятае, будзе, перш за ўсё, рашэннем на паперы. Так, яно будзе выкананае, але як хутка? Невядома, напрыклад, ці будуць у «Альформы» грошы на рахунку. Карацей, суддзя быў вельмі красамоўным.

Да ўгаворвання далучыўся А.Лех, літаральна паўтарыўшы словы суддзі. Маўляў, калі суд прыме бок жанчын, дык ім будзе напісана скарга, якую два месяцы стануць разглядаць. «Я не магу гарантаваць, што праз два месяцы «Альформа» будзе існаваць. Можа проста не прайсці рэгістрацыю», – з намёкам зазначыў А.Лех. «Ці варта яшчэ хадзіць у суд, ці не лепей папросту атрымаць рэальна прапанаваныя грошы?» – зноўку падтрымаў яго суддзя. Карацей, была быццам прапанавана сініца ў руцэ замест журава ў небе. Пачутыя довады выглядалі амаль неаспрэчна, і жанчыны пачалі вагацца. Спачатку згадзіліся на ўмовы дырэктара некалькі з іх, затым большасць.

Працягваць змаганне наважыліся толькі лідэр былога Свабоднага прафсаюза «Альформы» Ірэна Байрашэўская і дзве яе каляжанкі. Яны рызыкавалі не атрымаць нічога. Аднак адразу дамагліся свайго. Іх, па-першае, аднавілі на працы. І.Байрашэўская павінна будзе зараз атрымаць 160 тысяч рублёў, Л.Немкіна – 210 тысяч, Н.Флеева – 170 тысяч. Плюс да гэтага па 10 тысяч рублёў кампенсацыі. Застаецца толькі задацца рытарычным пытаннем: чаго было варта красамоўства суддзі Я.Казяка? А ў сувязі з гэтым паўстае наступнае пытанне: што было б, каб астатнія больш за 600 жанчын не пабаяліся змагацца за свае правы і падалі скаргі ў суд?

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Праблемнае багацце

Перадача пэўнай часткі беларускіх лясоў у прыватную ўласнасць не выключана, але зараз казаць пра гэта зарана: пакуль што яны мусяць быць агульнадаступнымі. Так заявіў на прэс-канферэнцыі начальнік упраўлення лясной і паляўнічай гаспадаркі міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі Міхаіл Кузьмянкоў. Цяпер мінлясгас займаецца адыманнем земляў ляснога фонду ў калгасаў, якія з прыняццем новага ляснога заканадаўства не могуць мець іх ва ўласнасці. Гэты працэс павінен быць завершаны да сярэдзіны лета 2001 года.

За савецкім часам лясны фонд падзяляўся на лясы дзяржаўнай і калгаснай уласнасці. Як паведаміў Міхаіл Кузьмянкоў, агульная плошча беларускіх лясоў не больш за 9 мільёнаў гектараў, 1,2 мільёна з якіх належала калгасам. Гэта давала ім магчымасць нарыхтоўваць драўніну для ўласнай гаспадаркі бясплатна і па ўласных нарматывах вырубкі, а калгаснікам адпускаць драўніну з 50%-ымі зніжкамі. Але за гэта калгасы павінны былі за ўласныя сродкі займацца ўпарадкаваннем, аховай і падтрыманнем у належным стане «сваіх» лясоў. У выніку такіх вольнасцяў усю сваю дзейнасць калгасы сакцэнтавалі на вырубку лясоў у некантраляваных памерах, а адсутнасць лесааднаўляльных і ахоўных работ тлумачылі недахопам грашовых сродкаў.

Пасля прыняцця Канстытуцыі ў 1994 годзе калгасы страцілі права мець ва ўласнасці лясы і іншыя прыродныя рэсурсы і выкарыстоўваць іх бясплатна. Зараз лясы будуць перадавацца калгасам толькі ў арэнду за пэўную плату, і дзяржава як уласнік будзе дыктаваць нормы нарыхтовак драўніны, вырубкі і аховы лясоў, за невыкананне якіх дамова арэнды можа быць скасавана, а супраць калгаса ўжытыя штрафныя санкцыі.

На сённяшні дзень, паводле Міхаіла Кузьмянкова, нягледзячы на супраціў калгасаў, ва ўласнасць дзяржавы перададзена каля 1 мільёна лясоў, а дакладней кажучы, таго, што раней было лясамі, а пасля панавання калгасаў стала «кустоўем і малакаштоўнымі насаджэннямі». На плошчы ў 8 тысяч гектараў былых калгасных лясоў ужо праведзена лесааднаўленчая праца, але лесам гэта можна будзе назваць толькі праз 7 гадоў.

Увогуле пасадка лесу праводзіцца штогод (штучна пасаджаны лес займае каля 30% ад усіх лясных абшараў Беларусі). Для таго, каб засадзіць каля 30 тысяч гектараў зямель ляснога фонду, спатрэбіцца 300 мільёнаў саджанцаў, вырошчваннем якіх займаюцца 70 адмысловых гадавальняў. Зараз рыхтуецца праграма аптымізацыі землекарыстання, паводле якой сельскагаспадарчыя землі з нізкай урадлівасцю прапануецца перадаць пад пасадку лясоў, а гэта прыкладна 300 тысяч гектараў.

Не менш цяжкасцяў існуе і ў нарыхтоўцы драўніны. Каб лес не быў засмечаны, штогод павінна праводзіцца яго прарэджванне, і як вынік нарыхтоўваецца каля 4,5 мільёнаў кубаметраў танкамернай драўніны, з якой 700 тысяч кубаметраў традыцыйна экспартуецца ў Швецыю, Польшчу ды ў Калінінградскую вобласць. Але кошты на рынку драўніны за апошнія гады знізіліся з 24 да 15 долараў за кубічны метр, і неапошнюю ролю адыграла тут багатая на лясы Расія. Таму такі продаж стаў для беларускай лясной гаспадаркі нявыгадны, а каб прыбыткова выкарыстоўваць такую драўніну самім, неабходны цэлюлозна-папяровы камбінат, будаўніцтва якога патрабуе 300-400 мільёнаў долараў.

Увогуле за 2000 год было нарыхтавана 10,5 мільёнаў куб. метраў драўніны, большасць з якой хвойных пародаў, бо яна больш якасная. Драўніны лісцевых пародаў нарыхтавана меней – з-за адсутнасці попыту (з 3 мільёнаў куб.метраў недабраны 1 мільён), аднак яны займаюць палову лясных насаджэнняў і вырубаць іх неабходна пачынаючы з 40-гадовага ўзросту.

Як заўважыў Міхаіл Кузьмянкоў, у выніку ў лясах можа адбыцца дызбаланс насаджэнняў у бок накаплення лісцевых пародаў дрэваў.

**Алена ЛАБАНАВА**

